**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by

Выдаецца са снежня 1994 года

3 (563) 20 студзеня 2011 года.

Кошт свабодны.


Photo ByMedia.net

Ãëûáîöê³ ðà¸í

# Ñàöûÿëüíû ôàêòàð – íå äðóãàðàäíû

■ Станіслаў Раманчук

**Вырашаючы эканамічныя і гаспадарчыя пытанні, у наш час вельмі важна пры гэтым не забывацца і пра надзённыя запатрабаванні людзей.**

Вось і ў Глыбоцкім раёне апошнім часам стараюцца пазбегнуць падобнага дысбалансу. У адышоўшым годзе тут уклалі значныя сродкі ў прывядзенне ў цывілізаваны выгляд яшчэ чатырох буйных вёсак, дзе па праграме абуладкавання аграгарадкоў адрамантавалі ўстановы культуры, магазіны, фельчарска-акушэрскія пункты. Упрыгожаннем райцэнтра сталі абноўлены гарадскі стадыён, стаматалагічная паліклініка, новы гмах СШ №1 і шматпавярховыя дамы. На чарзе ўзвядзенне ў мікрараёне Беразвечча дзіцячага садка. Але і па суседстве з горадам назіраецца прагрэс: у вёсцы Шуневічы пасля працяглага перапынку ўрачыста адкрылі сельскі клуб. Былы драўляны СДК знеслі тут яшчэ за савецкім часам, а цяпер для адпачынку вяскоўцаў правялі рэканструкцыю ранейшай мясцовай сталовай. Для амаль паўтысячы вяскоўцаў цяпер ёсць дзе сабрацца разам. На прайшоўшых навагодніх і калядных святах ля прыгажуні-ёлкі было шматлюдна. Гучала ў зале музыка, дзеці вадзілі карагоды, а мясцовыя жыхары з задавальненнем пагледзелі канцэртную праграму самадзейных артыстаў.

Ïàñòà¢ñê³ ðà¸í

# Êàñì³÷íûÿ ñ³ãíàëû – ïà òýëåôîíå

■ Кастусь Александровіч

**Найноўшыя сучасныя тэхналогіі ў нашай краіне найбольш імкліва развіваюцца ў галіне электрасувязі.**

Не стаў выключэннем і Пастаўскі раён, дзе яшчэ год назад як у горадзе, так і ў сельскай мясцовасці поўнасцю знікла чарга на ўстаноўку тэлефонаў. Па выкарыстанні перадавых тэхналогій Пастаўшчына сёння апярэджвае ўсіх у вобласці і большасць раёнаў Беларусі. За апошні год больш чым у 3 разы павялічылася тут колькасць карыстальнікаў шырокапалоснага доступу ў Інтэрнэт “ByFly” і дасягнула амаль 3 тысячы абанентаў. Найвейшыя валаконна-аптычныя лініі сувязі пракладзены ўжо да многіх лічбавых АТС у глыбінцы. Гэта дазволіла забяспечыць хутксасным Інтэрнэтам і лічбавым інтэрактыўным тэлебачаннем акрамя гараджан жыхароў вёсак Гута, Ярэва, Хацілы, Андроны, Юнькі, Парыж, Дунілавічы, гарпасёлкаў Варапаева і Лынтупы. Ужо амаль 2 тысячы дамоў глядзяць там па тэхналогіі “ZALA” па тэлефонным кабелі дзясяткі розных тэлепраграм выдатнай лічбавай якасці адлюстравання. Такімі сродкамі сувязі людзі задаволены, бо забяспечаны яшчэ доступам у Інтэрнэт і надзейнай тэлефоннай сувяззю. Каля 5 тысяч сем’яў пастаўчан маюць таксама магчымасць прымаць да 65 тэлепраграм з дапамогай лічбавага перадатчыка прыватнай фірмы “Ультрасетка”. Яго сігнал свабодна прымаюць і жыхары паселішчаў у радыусе 10-15 км ад райцэнтра.

Ïîëàöê³ ðà¸í

# Êàäýò – ãó÷ûöü ãîäíà

■ Чэслаў Якубовіч

**Толькі з цягам часу высвятляецца, колькі многа было страчана грамадствам пры панаванні ў нас пракамуністычнай ідэалогіі.**

Але менавіта ў Полацкім раёне, як нідзе болей у вобласці, многае робіцца, каб вярнуцца да сваіх каранёў і слаўнай старажытнай гісторыі гэтага краю. Таму ў найстарэйшым горадзе краіны з патрэбным размахам правялі ўрачыстасці з нагоды 175-годдзя мясцовага кадэцкага корпуса. У гэтай навучальнай установе ў далёкім мінулым рыхтаваліся з маленства высокаадукаваныя, прагрэсіўна мыслячыя афіцэры. Спачатку палачане на базе сярэдняй школы № 4 адрадзілі кадэцкія класы, з якіх пяць гадоў назад было створана і кадэцкае вучылішча. Яно рыхтуе будучых кадры для беларускай арміі, кіруючыся прынцыпам: “Жыццё – Айчыне, душа – Богу, сэрца – людзям, гонар – нікому”. У прыгожай ваеннай форме больш за сотню школьнікаў, сярод якіх ёсць і некалькі дзяўчынак, прыйшлі на ўрачыстае Богаслужэнне ў катэдральным саборы. З адметнай падзеяй павіншавалі дзяцей і на ўрачыстым мітынгу, які прайшоў ля адноўленага помніка героям Айчыннай вайны 1812 года. У праграме юбілею ваеннай навучальнай установы таксама адкрылася выстава ў гарадской мастацкай галерэі, а ў Доме культуры ААТ “Шклvolакно” 49 першакурснікам-кадэтам урачыста ўручылі пагоны вайскоўцаў.

# Лічба нумара



**45** ***$/тона*** – на столькі расійскія кампаніі “Раснафта” і “Сургутнафтагаз” вырашылі ў гэтым годзе павысіць кошт сваёй прадукцыі для продажу на нафтаперапрацоўчыя заводы Беларусі. З-за цэнавых рознагалоссяў айчынныя НПЗ у Мазыры і Наваполацку не атрымалі пакуль пры адсутнасці падпісаных кантрактаў у студзені ніводнай тоны расійскай нафты без пошлін. Беларускім заводам прыйшлося ў выніку зноў перайсці на працу па графіку яе перапрацоўкі ў 2 разы меншым за свае тэхнічныя магчымасці (толькі па 12-15 тыс. тон у суткі).

Праўда, канцэрн “Белнафтахім” захоўваў аптымізм у гэтай сітуацыі і спадзяваўся на ранней створаных запасах стратэгічнай сыравіны дацягнуць да канца месяца. Услед за ранейшым павышэннем “Газпрамам” цаны на расійскі газ на 2011 год стала відавочна, наколькі Крэмль шчыра віншаваў беларускае кіраўніцтва з перамогай на выбарах і як ён адносіцца да аднаго са сваіх партнёраў па АЭП. Яшчэ невядома, які будзе запушчаны Еўрасаюзам у канцы студзеня механізм санкцый да РБ, а Масква дзейнічае прагматычна і досыць жорстка.

Летась з-за ўведзеных расійскіх пошлін на нафту беларусы атрымалі страт ад сваёй нафтаперапрацоўкі на ўзроўні мінус 1,5 млрд. долараў. Сёлета разлічвалі зарабіць ужо 750 млн. $, але пакуль гэтым планам не суджана збыцца. Хутчэй за ўсё, нам прыйдзецца саступіць і падпісаць кантракты на ўмовах расійскіх кампаній. Услед за вытворцамі і прадаўцамі нафты з РФ аналагічных для сябе ўмоў запатрабавалі кампаніі, якія дастаўлялі нафту ў РБ на давальных умовах, іх пазіцыю падтрымаў расійскі віцэ-прэм’ер Ігар Сечын.

Справа ў тым, што зараз даходнасць экспарту паліва за мяжу для расійскіх нафтавікоў не жадаюць субсідзіраваць унутраны беларускі рынак. Прайшоўшыя ў Маскве перамовы па гэтым пытанні вынікаў не прынеслі, неафіцыйна нашы ўпраўленцы назвалі такую пазіцыю партнёраў “шантажом”. З цягам часу ўсе непаразуменні, зразумела, будуць зняты, але ж і па газу прагназуемага кампрамісу і паразумення няма. Дарэчы, у 2011 годзе Беларусь планавала закупіць у Расіі “блакітнага паліва” даволі шмат – 22,5 млрд. кубаметраў.

Кошт гэтага пытання немалы: 30 долараў за кожную тыс. куб. метраў імпартаванага газу, каб засталіся цэны мінулага года. На жаль, скарэкціраваць цану на яго не ўдалося на фоне таго, што за 11 месяцаў летась беларусы нагандлявалі за мяжой на мінус 8,4 млрд. долараў ( паказчык 2009 года – 6,3 млрд. $). Пасля істотнага павышэння сярэдніх зарплат па краіне і росту пакупніцкай здольнасці насельніцтва ціск на айчынную валюту ўзмацніцца.

У гэтым годзе Беларусі трэба штомесяц мець каля 0,5 млрд. долараў толькі для фінансавання сваіх знешніх закупак. Айчынным фінансам у гэтай сітуацыі сур’ёзную падтрымку павінны аказаць бяспошлінныя пастаўкі расійскай нафты, калі яны далей пойдуць без збояў, хоць бы і па павышаных цэнах. Спецыялісты ведаюць, што знешні доўг нашай краіны наблізіўся да 50 % ВУП і яго нельга ўжо павялічваць далей. Такім чынам, пагроза плаўнай дэвальвацыі беларускага рубля даволі істотная, і новаму складу ўрада і Нацбанку РБ прыйдзецца сур’ёзна папрацаваць над захаваннем яго стабільнасці.

З моманту адстаўкі былога Кабміна ў Беларусі прыняты былі 48 кадравых рашэнняў, хоць у 33 такіх прызначэннях на адказныя пасады прыйшлі вядомыя ўжо чыноўнікі. Былі прадоўжаны паўнамоцтвы членам праўлення Нацыянальнага банка ва ўмовах пагаршэння гандлёвага і плацежнага балансу краіны. На сваёй пасадзе прадоўжыць дзейнасць і яго старшыня Пётр Пракаповіч, якому ідзе, між іншым, ужо 69-ты год.

Пасля апублікавання Дырэктывы № 4 аб эканамічнай лібералізацыі ў Беларусі новы прэм’ер-міністр “забракаваў” Праграму сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны на перыяд 2011-2015 гады, хоць гэты дакумент быў зацверджаны 4-м Усебеларускім сходам. Значыць, няпростыя задачы наперадзе чакаюць айчынных упраўленцаў, якім на практыцы прыйдзецца ажыццяўляць намечанае, ад лозунгаў і дэкларацый пераходзіць да канкрэтных крокаў, а якіх канкрэтна, пакажа бліжэйшы час.

## Íàäâîð’å ¢ Ãëûáîê³ì

| | чацвер 20.01.11 | | | | пятн. 21.01.11 | | | | сб. 22.01.11 | | | | нядз. 23.01.11 | | | | пн.24.01. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 20:00 | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 20:00 | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 20:00 | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 20:00 | 02:00 | 08:00 | 14:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература, °С | -1 | -1 | -1 | -1 | -3 | -2 | -3 | -4 | -7 | -8 | -6 | -8 | -10 | -9 | -6 | -5 | -7 | -6 | -6 |
| Ціск, мм | 751 | 751 | 751 | 752 | 753 | 753 | 752 | 754 | 754 | 755 | 754 | 754 | 751 | 749 | 746 | 746 | 746 | 746 | 745 |
| Вільготнасць, % | 89 | 91 | 78 | 87 | 87 | 87 | 85 | 86 | 88 | 84 | 81 | 87 | 86 | 83 | 78 | 83 | 84 | 86 | 83 |
| Вецер м/сек | З 1 | Ю 2 | Ю 2 | В 2 | В 2 | В 3 | В 2 | С-В 4 | С-В 4 | С-В 2 | С-В 1 | С 1 | Ю 1 | Ю 3 | Ю 3 | Ю 3 | Ю-З 2 | Ю 2 | С-З 1 |
| | | 08:20 | 16:21 | | | 08:19 | 16:23 | | | 08:18 | 16:25 | | | 08:16 | 16:27 | | | 08:15 | 16:29 |
| | | 17:33 | 08:16 | | | 19:04 | 08:37 | | | 20:34 | 08:54 | | | 22:03 | 09:10 | | | 23:32 | 09:26 |

## Äçåíü çà äí¸ì

**На гэты год у Беларусі прагназуецца рост цэн у межах 7 - 8,5%, а летась інфляцыя склала менш за 10 працэнтаў. Калі не будзе перавышэння гэтых парогаў, то Нацбанк РБ можа знізіць існуючыя стаўкі па рублёвых крэдытах і па дэпазітах. Аднак толькі ў снежні краіна згубіла яшчэ каля 1 млрд. $ сваіх золатавалютных рэзерваў. У Еўрапарламенце прайшлі слуханні па сітуацыі ў Беларусі, а 31 студзеня главы МЗС краін ЕС могуць запусціць механізм санкцый у адносінах з РБ. Беларускія аптэкі падрыхтаваліся да эпідэміі грыпу, якая можа пачацца ў канцы месяца або ў пачатку лютага.**

# Âàæíåéøûÿ íàâ³íû ñâåòó

**Венгрыя.** Краіна стала старшынёй у ЕС да ліпеня 2011 года і плануе правесці саміт краін СНД па праграме "Усходняга партнёрства", далей старшынства перайдзе да Польшчы.

**Пакістан.** Свет трывожыць рэзкі рост ісламскага экстрэмізму, забойства губернатара правінцыі Пенджаб яго целаахоўнікам, падрыў тэрарыстамі школьнага аўтобуса.

**Егіпет.** Пасля падрыву баевікам "Аль-Каіды" праваслаўнага храма і забойства 21 чалавека, у краіне запанаваў страх і хаос, былі вулічныя сутычкі хрысціян коптаў з сіламі паліцыі.

Расія. Краіна стала першай у свеце, дзе дазволілі перасадкі хворым на дыхавіцу людзям тканак альбо органаў жывёлін, у НДІ імя Скліфасоўскага прайшлі выпрабаванні метада.

**Іран.** Напярэдадні падключэння сваёй АЭС у Бушэры да існуючай энергасеткі краіна запрасіла на свае асноўныя ядзерныя аб'екты прадстаўнікоў Расіі, Кітая і Еўрасаюза.

**ЗША.** Аўтаканцэрн "Форд" пачаў аснашчаць свае аўтамабілі новай сістэмай "Стоп-старт" аўтаматычнага глушэння рухавіка пры іх працяглай астаноўцы, эканоміцца 10 % паліва.

**Польшча.** Былы камандзір польскага авіяспецпалка Р. Латкоўскі прычынамі трагедыі пад Смаленскам назваў грубыя памылкі пілотаў і дыспетчараў, садзіць самалёт было нельга .

**Аргенціна.** У сталіцы краіны Буэнас-Айрэсе злачынцы праз пракапаны 30-метровы тунэль абакралі буйны банк і забралі са сховішча каштоўнасці са звыш 100 банкаўскіх ячэек.

**Канада.** Вывучаючы здымкі бацькі-астранома,Кэтрын Грэй,школьніца ва ўзросце 10 гадоў з горада Фрэдэріктан, сенсацыйна адкрыла невядомую звышновую зорку ў галактыцы.

**Кітай.** Услед за Расіяй моцны ледзяны дождж паралізаваў рух на многіх дарогах краіны, былі закрыты аэрапорты, абясточаны шэраг рэгіёнаў, парушана сувязь, загінулі людзі.

**Англія.** У Вестмінтэрскім абатстве на пятніцу 29 красавіка прызначылі цырымонію вянчання брытанскага прынца Уільяма і яго даўняй сяброўкі ( з 2001 года) Кейт Мідлтан.

**Літва.** У Вільнюсе, а потым у Мінску развіталіся з вядомай 48-гадовай журналісткай і паэткай Таццянай Дубавец, якая загінула ў ДТЗ, вяртаючыся з Польшчы з народзін унучкі.

**Аўстралія.** Матэрыяльны ўрон краіны ад гіганцкай паводкі перавысіў 9 млрд. USD, былі эвакуіраваны 300 тыс. чалавек.

**ААЭ.** У жылых зонах сталіцы Эміратаў Абу-Дабі не толькі ўвялі жорсткія абмежаванні хуткасці руху аўтамабіляў, але і сталі ўкладваць спецыяльны асфальт чырвонага колеру.

**Пуэрта-Рыка.** Вядомы скульптар Зураб Цэрэтэлі застаўся верным сабе і пачаў тут манціраваць помнік Хрыстафору Калумбу вышынёй 126 метраў з 2,4 тысяч дэталяў.

## Êàíöýðò ïàì ÿö³ êñ. Þçàôà Áóëüê³ ¢ Ìîñàðû.



**У нядзелю 23 студзеня ў Мосары пасля Святой Імшы ў 13 гадзін адбудзецца канцэрт мінскага хору "Голас Душы" з касцёла Св. Сымона і Алены (Чырвоны касцёл), прысвечаны светлай памяці ксяндза Прэлата Юзафа Булькі.**

Каб ушанаваць памяць пра славутага святара, барацьбіта за духоўныя каштоўнасці і ахвярнага душпастыра ксяндза Юзафа Бульку, падчас канцэрту людзі добрай волі таксама змогуць дапамагчы сваімі ахвяраваннямі на надмагільны помнік і "Дом памяці кс. Юзафа Булькі"- музей, які паўстане ў парафіі. Падрабязная інфармацыя па тэлефоне:

*Т. 8-02156-3-29-49. Кс. Аляксей Юркайць.*

# Ïàäçå³, ïðà ÿê³ÿ ãàâîðûöü Áåëàðóñü

**Пінск.** У адносінах да буйной прыватнай кампаніі краіны – холдынга "Пінскдрэў"–прынялі меры, фактычна падобныя на нацыяналізацыю, што адкінула Беларусь у мінулае.

**Мінск.** Падыходы да развіцця знешняга гандлю, як заявіў прэм'ер-міністр РБ Міхаіл Мясніковіч, трэба рэзка мяняць, бо летась яго адмоўнае сальда вырасла амаль да 9 млрд. $.

**Салігорск.** Беларуская калійная кампанія заключыла выгадны кантракт на пастаўку ў Нарвегію 5 млн. тон калійных угнаенняў, што павялічыць прыбытак "Беларуськалію".

**Мінск.** Кампанія "Белавія" пацвердзіла, што пакуль не будзе замяняць свае састарэлыя тры самалёты Ту-154М на новыя, іх выкарыстоўваюць толькі на чартарных рэйсах.

**Брэст.** Суд Маскоўскага раёна горада ўпершыню ў РБ пакараў 30-гадовага радыёмеханіка штрафам на 3,5 млн. рублёў за "перапрашыўку" крадзенага мабільнага тэлефона.

**Быхаў.** На тэрыторыі Дунайкаўскага сельсавета адным з першых у РБ не стала ніводнага калгаса, а вытворчасць прадстаўлена толькі лясніцтвам, зусім апусцелі мясцовыя вёскі.

**Бабруйск.** Пасля году вышуку міліцыя затрымала двух гараджанак цыганскай знешнасці ва ўзросце 24 і 33 гады, якія пад выглядам мед- і сацработнікаў абкрадалі старых у краіне.

**Ашмяны.** Адразу два катэджы–дзіцячыя дамы сямейнага тыпу– адкрыліся ў райцэнтры, у іх прыёмныя бацькі возьмуць на пражыццё да 10 дзяцей, але ў РБ яшчэ 27 тысяч сацсірот.

**Пінск.** У мясцовай майстэрні музычных інструментаў выканалі спецыяльны заказ для Мірскага замка – вырабілі лютню і віолу, на якіх ігралі музыкі ў перыяд Сярэднявечча.

**Гродна.** Паблізу дзяржаўнай граніцы з Літвой затрымалі чатырох афганцаў ва ўзросце 19-26 гадоў, якія спрабавалі трапіць у ЕС, пазней быў затрыманы і арганізатар пераходу.

**Магілёў.** Новы спецаўтобус для перавозкі інвалідаў падараваў мясцоваму дзяржэканамкаледжу айблыкчанкам, тут навучаецца каля 300 студэнтаў з рознымі траўмамі, хваробамі.

**Гомель.** Міліцыя пачала крымінальную справу супраць 52-гадовага беспрацоўнага, раней судзімага (за наркотыкі) гараджаніна, які дома наладзіў прытон для ўжывання наркаты.

**Мінск.** Яшчэ два кінатэатры сталіцы – "Цэнтральны" і "Салют" пасля рэканструкцыі сталі працаваць у фармаце 3D аб'ёмнага кіно, білеты коштам 15-20 тыс. рублёў ідуць нарасхоп.

**Ліда.** Шмат пытанняў выклікаў намер мясцовых улад пабудаваць у двары адноўленага 700-гадовага замка трохпавярховы бетонны дом, што не адпавядае гістарычнай праўдзе.

**Брэст.** Кіраўнік вобласці Канстанцін Сумар пасля паўгода ўгавораў згадзіўся і запісаў уласны музычны дыск з 10 рамансаў і народных песень, у яго цудоўны голас і слых.

## Äëÿ íåïà¢íàëåòí³õ íà äûñêàòýêàõ óñòàëÿâàëàñÿ "êàìåíäàíöêàÿ ãàäç³íà"

■ Марына Паўлава

**З 12 студзеня набыло моц заканадаўства пра забарону наведвання начных дыскатэк непаўналетнімі.**

Зараз адказнасць за знаходжанне непаўналетніх у начных клубах, дыска-барах і іншых забаўляльных установах пасля 22.00 будуць несці прадпрымальнікі і юрыдычныя асобы - уладальнікі гэтых устаноў. Хуткім часам праваахоўныя органы плануюць правесці масавыя рэйды ў культурна-забаўляльныя установы ўсіх формаў уласнасці ў розных рэгіёнах краіны. Штраф за знаходжанне на дыскатэках непаўналетніх пасля "камендантцкай гадзіны" можа складаці ад 10 да 50 базавых велічынь.

# Ïàíàðàìà ¢íóòðûàáëàñíûõ ïàäçåé

**Наваполацк.** Завод "Нафтан", як і Мазырскі НПЗ, з пачатку года працаваў на старых запасах нафты па эканамграфіку, ён не атрымаў ні тоны расійскай бяспошліннай нафты.

**Віцебск.** На падтрымку неэфектыўнай сельскай гаспадаркі з абласнога бюджэту сёлета выдзелена 483 млрд. рублёў, што ў 2 разы больш, чым выдаткоўвалася ў 2010 годзе.

**Новалукомль.** У мясцовым рыбгасе па Рэспубліканскай праграме развіцця рыбнай галіны падрасла 1-я партыя таварнага асятра, тут стварылі і матачнае пагалоўе каштоўных рыб.

**Віцебск.** Каб ачысціць галоўныя дарогі вобласці ад моцнага снегу, толькі прадпрыемства "Віцебскаўтадар" вывела больш за 300 адзінак тэхнікі, суткамі працавалі тысячы людзей.

**Сянно.** У мясцовай школе-інтэрнаце адкрыліся два новых аб'екты: абноўленая ўтульная гасціная для адпачынку дзяцей і лабараторыя пчалаводства, на чарзе - музей пчалаводства.

**Полацк.** Пасля моцных снегападаў вышыня снежнага покрыва ў горадзе стала рэкордная і перавысіла 57 см, раней такое назіралася зімой 1964/1965 гадоў, было шмат аварый ЛЭП.

**Глыбокае.** У былой райбібліятэцы пасля капітальнага рамонту да свята Перамогі 9 мая вырашана адкрыць новы музей Вялікай Айчыннай вайны, будзе абноўлены і парк Перамогі.

**Лепель.** У памяшканні былога ваеннага шпіталя пасля рэканструкцыі коштам каля 0,5 млрд. рублёў справіў наваселле новы сацыяльна-педагагічны цэнтр для дзяцей, якія знаходзяцца ў бядзе.

**Віцебск.** Першамайскі РАУС пачаў праверку, ці займалася прадзюсерская група з Масквы махлярствам пры арганізацыі разрэкламаванага, але сарванага цыркавога прадстаўлення.

**Паставы.** У Доме рамёстваў "Стары млын" і на сядзібе Зюзі Паазерскага прайшло выязное пасяджэнне пленума абласнога камітэта прафсаюза работнікаў культуры.

**Бешанковічы.** Міністэрства прыродных рэсурсаў РБ пацвердзіла правамернасць поўнай абрэзкі крон "дуба Напалеона", бо ён пагрозліва стаяў толькі за 10 метраў ад СШ № 2.

**Докшыцы.** Бярэзінскі біясферны запаведнік уключылі ў спіс водна-балотных угоддзяў сусветнага значэння, ён стаў 9-м па ліку ў Беларусі з падобным значным статусам.

**Наваполацк.** У рамках дабрачыннай акцыі "Шчодрае сэрца" работнікі завода "Палімір" сабралі грошы і купілі камплект зімовага спортінвентару для школы-інтэрната ў Ветрыне.

**Глыбокае.** З лячэння ў райбальніцы пачаўся гэты год для 19-гадовай жыхаркі раёна, у якой падчас узрыва петарды было абпалена калена.

**Віцебск.** На плошчах былога рэстарана "Франкфурт-на-Одэры" адкрыўся новы абноўлены "Вікторыя" з банкетнай залай і залай беларускай кухні, вясной тут будзе і піўны бар.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# Кнігі выдавецтва «Беларусь» па гісторыка-культурнай спадчыне вельмі запатрабаваныя і адзначаныя мноствам узнагарод




Кнігі выдавецтва «Беларусь» па гісторыка-культурнай спадчыне вельмі запатрабаваныя і адзначаныя мноствам узнагарод, заявіў 14 студзеня ў Мінску на прэс-канферэнцыі, прысвечанай 90-годдзю выдавецтва, намеснік міністра інфармацыі Ігар Лапцёнак.

Паводле яго слоў, прадпрыемства, заснаванае 18 студзеня 1921 года як «Беларускае дзяржаўнае выдавецтва», дало жыццё многім айчынным выдавецтвам.

Як сказаў Лапцёнак, поспехі «Беларусі» сведчаць аб тым, што кніжная справа ў краіне існавала, існуе і будзе існаваць.

Як зазначыла в.а. дырэктара выдавецтва Валянціна Пінчук, нягледзячы на тое, што з 1974 года колькасць работнікаў прадпрыемства скарацілася амаль у пяць разоў, «Беларусь» кожны год выпускае каля 60 кніг і альбомаў. Яна выказала ўдзячнасць Мініінфармацыі за фінансавую падтрымку і паведаміла, што сёлета запланаваны выпуск трэцяга тома «Гісторыі сусветнага мастацтва», «Гісторыі беларускага народнага мастацтва», «Міфалагічнага слоўніка» і штогадовага адрыўнога календара «Наш край» на 2012 год.

Паводле слоў вядучага спецыяліста выдавецтва Анжэлы Самасейкі, кнігі «Беларусі» карыстаюцца вялікім попытам. У прыватнасці, альбомы «Напалеон Орда» і «Мінск» выпускаліся трыма накладамі, а кнігі «Павел Сухой» і «Ваяры Грунвальдскай бітвы» разышліся за некалькі месяцаў.

Як зазначыла спецыяліст, прадукцыю выдавецтва можна набыць як у кніжных магазінах краіны, гэтак і ў вядучых музеях, турыстычных цэнтрах, пяцізоркавых гатэлях і Нацыянальным аэрапорце «Мінск».

Удзельнікі прэс-канферэнцыі змаглі азнаёміцца з выданнямі прадпрыемства 1960-2000-х гадоў.

Выдавецтва спецыялізуецца на выпуску кніг па пытаннях гісторыка-культурнай спадчыны. У 1981 годзе ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў. У 2009 годзе па выніках Міжнароднага конкурсу мастацтва кнігі краін СНД альбом прадпрыемства «Царские охоты в Беловежской пуще» ўдастоены прэміі «Залаты фаліянт». Выдавецтва з'яўляецца адзіным у краіне, адзначаным вышэйшай узнагародай за кнігавыдавецкую дзейнасць дыпломам імя Францыска Скарыны.

*Марат Гаравы, БелаПАН.*

# Выдавец Уладзімір

■ Уладзімір Скрабатун

**У 1998 годзе аўтар гэтых радкоў выдаў кнігу «Глыбокае на старых паштоўках». Сярод 60 ілюстрацый, якія былі змешчаныя ў кнізе, бадай 80 адсоткаў – ілюстрацыі паштовак, якія былі выдадзеныя Уладзімірам Васільевічам Уладзіміравым.**

Пра выхад кнігі «Глыбокае на старых паштоўках» паведамлялі шмат якія беларускія газеты. Аднак для аўтара было вялікай нечаканасцю, калі ў 1999 годзе да яго з Мінска ў Глыбокае завітаў Яўген Уладзіміравіч Уладзіміраў з жонкай. Спадар Яўген Уладзіміраў і ёсць сын выдаўца глыбоцкіх паштовак.

Прайшло ўжо нямала гадоў з таго часу, але раз на год мы навочна бачымся ды па Скайпу перамаўляемся раз на тыдзень.

Спадар Яўген і прадставіў аўтабіяграфічныя звесткі пра свайго бацьку, уласнаручна ім жа і напісаныя.

Уладзімір Васільевіч Уладзіміраў нарадзіўся 18 снежня 1886 года ў Гродне ў сям'і мяшчан. Праваслаўны.

Вучыўся ў народнай школе і 4-класнай гарадской вучэльні імя А. Пушкіна, якую скончыў у 1904 годзе. У гэтым жа годзе быў прыняты на працу ў Дзяржаўны Кантроль у якасці канторскага служачага. Тут адпрацаваў да 1909 года. З 1909 да 1913 года служыў у Рускай Арміі. У 1913 годзе пасля адбыцця вайсковай павіннасці вярнуўся ў Гродна і зноў паступіў на працу ў Дзяржаўны Кантроль. У 1914 годзе з пачаткам Першай сусветнай вайны Губернскі Сакратар У. В. Уладзіміраў быў мабілізаваны ў Рускую Армію і напраўлены на фронт, дзе прызначаны загадчыкам гаспадарчай часткі №1 вайсковага шпіталя пры 26-ай пяхотнай дывізіі.

Быў узнагароджаны ардэнамі Святога Станіслава 3-й ступені і Святой Ганны 3-й ступені, а таксама медалём у памяць 300-годдзя дома Раманавых. У 1918 годзе пасля дэмабілізацыі вярнуўся ў Гродна. На першым часе працаваў рабочым на мармеладнай фабрыцы. З 1919 да 1924 гг у Гродзенскім магістраце – канторскім служачым. У 1924 годзе пераехаў у Глыбокае, дзе паступіў на працу ў фінансавы аддзел канторскім работнікам. У 1925 годзе быў звольнены палякамі без тлумачэння прычынаў. З 1925 да 1939 года займаўся пераплётнай справай і гандлем, натуральна, выданнем паштовак. Крама У. Уладзімірава, дзе прадаваліся ўсялякія пісьмовыя прыналежнасці: папера, паштовыя маркі, паштоўкі – размяшчалася на вуліцы Замкавай, 14. Калі лакалізаваць тое месца паводле сённяшніх дзён – насупраць пошты.

З прыходам Чырвонай Арміі ў верасні 1939 года ўладкаваўся на працу рахункаводам у кавальска-слясарную арцель, дзе і адпрацаваў да чэрвеня 1941 года. Пад нямецкай акупацыяй да 1942 года займаўся пераплётным рамяством і продажам сваіх вырабаў: блакнотаў, альбомаў і інш. Калі не сталася ні работы ні матэрыялаў, паступіў на працу ў аддзяленне ЗАГСа пры Глыбоцкай Раённай Управе, дзе і працаваў да 1944 года – прыхода Чырвонай Арміі.

З 1944 да 1948 гг працаваў касірам Глыбоцкага Аддзялення Дзяржбанка. З 1948 да 1949 гг працаваў касірам-рахункаводам канторы па нарыхтоўцы жывёльнай сыравіны.

З 1949 па 1950 гг працаваў рахункаводам-касірам у арцелі "Чырвоная Зорка".

З 3 сакавіка да 1 жніўня 1950 года – рахункаводам-касірам на Будаўнічым участку №2.

4 жніўня ўладкаваўся рахункаводам-касірам на Глыбоцкі лесагандлёвы склад…

11 кастрычніка 1953 года здарылася трагедыя. Уладзімір Уладзіміраў зайшоў у краму, якая знаходзілася на скрыжаванні вуліц Маскоўскай і Леніна, купіць хлеба. Дастаў з кашалька купюры значнай




**Адрасны бок адной з паштовак з тыповым афармленнем для паштовак, якія выдаваў У. Уладзіміраў – пасярод па вертыкалі быў надпіс:** Wydawnictwo W. Włodzimierowa, Głębokie. Naśladownictwo wzbroniono.




**Колішні беразвецкі базыльянскі манастырь. У 1930-я гг тут размяшчаўся Корпус Аховы Пагранічча. Царква святых апосталаў Пятра й Паўла была разбураная ў 1950-ыя гг па ініцыятыве глыбоцкіх уладаў.**




**Папулярная паштоўка 1930-х гг. На ёй – 3-пралётная гатычная брама, якая пабудаваная да дня прыезду ў Глыбокае «Пана Прэзідэнта Рэчы Паспалітай» Ігнацыя Масціцкага. Бачная дата пабудовы – 1930 год. І надпіс: «Не пакінем зямлі – адкуль наш род...»**

**Паводле цяперашняй лакалізацыі: злева стаіць магазін «ВінКон», справа – музычная школа.**

Астравец, Ашмяны, Браслаў, Вілейка, Верхнядзвінск, Глыбокае, Докшыцы, Мёры, Паставы, Полацк, Ушачы, Шаркоўшчына :

## 20-27 сакавіка адбудзецца пілігрымка беларускіх вернікаў у Святую Зямлю

Ізраіль – гэта краіна, якая лічыцца Святой Зямлёй для трох рэлігій. Хрысціяне, юдэі і мусульмане з году ў год шукаюць тут слядоў Божай прысутнасці ў зямной гісторыі чалавецтва.

20-27 сакавіка бягучага году адбудзецца пілігрымка беларускіх вернікаў у Святую Зямлю. Падчас паломніцтва 25 сакавіка ў Ерузалеме пад кіраўніцтвам кс. Юрыя Барка (раней працаваў у Глыбокім, а зараз у Ізраілі) прагучыць малітва за нашу Бацькаўшчыну Беларусь.

Ахвотных прыняць удзел у Вялікім Посце ў гэтым паломніцтве і паразважаць пра крыжовы шлях Божага Сына і крыжовы шлях Беларусі сардэчна запрашаем.

Падрабязнасці адносна раскладу пілігрымкі змешчаны на сайце: www.piligrymka.by.

***кс. Вячаслаў Барок***,
*каардынатар пілігрымак у Віцебскай дыяцэзіі.*

## На рэстаўрацыю Косаўскага палаца ў 2011 годзе выдзелена 2,8 млрд. рублёў

На рэстаўрацыю Косаўскага палаца (Івацэвіцкі раён Брэсцкай вобласці), помніка архітэктуры неаготыкі з элементамі класіцызму першай паловы XIX стагоддзя, у 2011 годзе з рэспубліканскага і абласнога бюджэтаў выдзелена 2,8 млрд. рублёў. Пра гэта паведаміў БелаПАН навуковы кіраўнік праекта, дырэктар «Брэстрэстаўрацыяпраект» — філіяла ААТ «Брэстрэстаўрацыя» Уладзімір Казакоў.

Паводле яго слоў, да лета гэтага года прадугледжваецца закончыць першачарговыя аднаўленчыя работы, якія вядуцца з лета 2008 года. Размова ідзе аб завяршэнні рэстаўрацыі фасадаў будынка і яго фрагментаў (вокнаў, дзвярэй, перакрыццяў, даху), зазначыў Казакоў. На працягу 2011—2013 гадоў запланавана пракладка ўнутраных інжынерных камунікацый і падрыхтоўчыя работы для аздаблення інтэр'ераў палаца, у якім прадугледжваецца размясціць Косаўскі грамадска-турыстычны комплекс.

На працягу 2013—2015 гадоў будзе ажыццёўлена пракладка знешніх інжынерных камунікацый, мастацкае афармленне інтэр'ераў будынка і добраўпарадкаванне акаляючай яго тэрыторыі. Для жыццезабеспячэння палаца прадугледжваецца бурэнне артэзіянскіх свідравін, наладжванне лакальнай сістэмы каналізацыі з ачысткай сцёкаў, а таксама будаўніцтва ветрапарку.

Казакоў не выключае, што пры спрыяльным фінансаванні работ да 2016 года рэстаўрацыя палаца можа быць завершана.



Косаўскі палац (былая рэзідэнцыя графаў Пуслоўскіх), узведзены па праекце архітэктара Францішка Яшчэлды за паўтара кіламетры ад горада Косава, з'яўляўся цэнтрам палацава-паркавага ансамбля і быў акружаны паркам, які не захаваўся. Палац мае сіметрычную кампазіцыю. Галоўны корпус злучаны з двума бакавымі двухпавярховымі аб'ёмамі вузкімі пераходамі з высокімі стральчатымі аркамі. Побач з палацам знаходзіцца радавы маёнтак кіраўніка нацыянальна-вызваленчага паўстання супраць рускага царызму 1794 года Тадэвуша Касцюшкі.

*Марат Гаравы, БелаПАН*

# Глыбоцкіх паштовак – Уладзіміраў

вартасці… Гэта ўбачылі два навучэнцы Глыбоцкай школы механізацыі… Яны і сутрэлі Уладзімірава на выхадзе з крамы на гэтым жа скрыжаванні. Вечар быў цёмны, на слупах у цэнтры горада не гарэла ніводнай лямпачкі... Забралі грошы і забілі. Забойцаў жа выявілі, судзілі. Аднак… У той час ўжо была адмененая смяротная кара і доўгія тэрміны зняволення. Злачынцы па абмене неўзабаве выехалі ў Польшчу.

Уладзімір Васільевіч Уладзіміраў пахаваны на цвінтары Копцеўка ў Глыбокім.

У 1998 годзе з нагоды выхаду кнігі «Глыбокае на старых паштоўках» мастацтвазнаўца Сяргей Харэўскі ў газеце «Наша Ніва» сярод іншага напісаў:

**«Мне цяжка ўявіць сабе кнігу, прысьвечаную паштоўкам, на якіх выяўленыя, напрыклад, галяндзкія ці гішпанскія гарады. Не таму, што іх ня можа быць, а таму, што цяжка ўявіць іх аб'ёмы і аўдыторыю. Пэўна, што выявы на паштоўках Мадрыду, Амстэрдаму, Барсэлёны ці Гаагі маглі б скласьці не адзін том. Але навошта такія тамы там, дзе гэтыя гарады перахавалі і свой выгляд і свой дух да сёньня?..**

**Для беларусаў старыя выявы колішніх местаў і мястэчак — тэма амаль сакральная. Гэта ня толькі крыніца элегічнае тугі альбо эстэтычных перажываньняў. Для беларуса гэта, апроч іншага, і дакумэнт, ці не адзінае пацьверджаньне паўнавартаснасьці сваёй культуры й гістарычнай адметнасьці. Тыя лякуны сьведамасьці, якія не запоўніла недасканалая адукацыя, і жыцьцё амаль з асалодаю запаўняецца відмом іншага, ужо далёкага, але не чужога жыцьця. Таму й гэтая кніга Ўладзімера Скрабатуна і, магчыма, шмат будучых кніжак сустрэнуць у Беларусі непазьбежны посьпех. ...».**

Нагадаю, тое было напісана ў 1998 годзе. І спадар Харэўскі на прыкладзе галандскіх і іспанскіх гарадоў (бо «гэтыя гарады перахавалі і свой выгляд і свой дух да сёння» – С.Х.) сказаў прарочыя словы пра Глыбокае... Няма ўжо беразвецкай царквы... Разбурылі будынак гімназіі, па-варварску знеслі «чырвоную школу»... Глыбокае, якога мы ўжо ніколі не ўбачым наяве, застанецца толькі на паштоўках Уладзіміра Васільевіча Уладзімірава, як «дакумэнт, які пацвярджае паўнавартасць глыбоцкай культуры і гістарычнай адметнасці».

Аўтар выказвае падзяку спадару Яўгену Уладзіміравічу Уладзіміраву, чытачу нашай газеты з 12-гадовым стажам за прадстаўленыя матэрыялы і дакументы, якія звязаныя з жыццяпісам яго бацькі, выдаўца глыбоцкіх паштовак.



**Уладзімір Васільевіч Уладзіміраў – выдавец глыбоцкіх паштовак.**




### Заміж эпілогу.

Нагадаем, што ў нашай газеце (№45 за 11.11.10) быў змешчаны матэрыял «Запатрабаваны і сёння», які прысвечаны 80-м угодкам з дня народзінаў Яўгена Уладзіміравіча Уладзімірава, кандыдата тэхнічных навук, дацэнта, члена-карэспандэнта Міжнароднай акадэміі інфармацыйных тэхналогій, супрацоўніка НАН Беларусі з 53- гадовым стажам. Вы не паверыце, але Яўген Уладзіравіч і сёння на працы. Ён – намеснік выканаўчага дырэктара ГНТП «Інфармацыйныя тэхналогіі».



**Уладзімір Уладзіміраў на фронце Першай сусветнай вайны ў Рускай Арміі.** *Фота з сямейнага альбома Яўгена Уладзімірава (г. Мінск).*




**Кнігарня і магазін матэрыялаў пісьмовых прыналежнасцяў сп. Уладзімірава ў Глыбокім на вуліцы Замкавая, 14. Спадарства Уладзіміравых на прыступках свайго магазіна. 1930-я гг.** *Фота з сямейнага альбома Яўгена Уладзімірава (г. Мінск).*
*Гл. шыльду буйным планам справа ўверсе.*




# У 2010 годзе ў Віцебскай вобласці намецілася тэндэнцыя да скарачэння колькасці карупцыйных злачынстваў

**У 2010 годзе ў Віцебскай вобласці намецілася тэндэнцыя да скарачэння колькасці карупцыйных злачынстваў. Аб гэтым БелаПАН паведаміў пракурор аддзела абласной пракуратуры па барацьбе з карупцыяй і арганізаванай злачыннасцю Ігар Марозаў.**

Паводле яго слоў, летась у рэгіёне былі зарэгістраваны 482 злачынствы карупцыйнай накіраванасці, што на 8,5% менш, чым у 2009 годзе, калі назіраўся рост колькасці карупцыйных злачынстваў.

482 злачынствы ўчынены 275 грамадзянамі. Гэта значыць, як адзначыў прадстаўнік абласной пракуратуры, ёсць шмат фактаў, калі адной асобай учыняецца некалькі злачынных дзеянняў. Так, напрыклад, выяўлена больш за 10 карупцыйных злачынстваў, учыненых двума службовымі асобамі ААТ «Глыбоцкая птушкафабрыка», а галоўны спецыяліст інспекцыі дзяржаўнага пажарнага нагляду Віцебскага гарадскога аддзела па надзвычайных сітуацыях асуджаны за сем фактаў атрымання хабару, беспрацоўны жыхар Гарадка выкрыты ў сямі фактах пасрэдніцтва ў хабары.

Традыцыйна найбольш небяспечным відам карупцыйных злачынстваў лічыцца хабарніцтва. Летась у Віцебскай вобласці выяўлена 147 такіх фактаў. У атрыманні хабару выкрыты тры работнікі міліцыі, галоўны спецыяліст інспекцыі дзяржаўнага пажарнага нагляду Віцебскага гарадскога аддзела па надзвычайных сітуацыях, **службовыя асобы ТАА «Глыбоцкая птушкафабрыка»,** УП «Стэмп» і шэрагу іншых прадпрыемстваў.

Зарэгістраваны 122 выпадкі крадзяжу шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі.

Матэрыяльны ўрон ад гэтага віду злачынстваў склаў больш за 1,1 млрд. рублёў. Са шкадаваннем прадстаўнік пракуратуры адзначыў, што сярод асоб, якія ўчынілі карупцыйныя злачынствы ў 2010 годзе, ёсць работнікі праваахоўных органаў, прадстаўнікі ўлады, службовыя асобы, якія займалі адказнае становішча. Зараз у Дубровенскім раёне разглядаецца крымінальная справа ў дачыненні да двух супрацоўнікаў міліцыі, якія ўчынілі шэраг цяжкіх злачынстваў супраць інтарэсаў службы. Яны ўлічаны ў дзевяці фактах атрымання хабару за вырашэнне пытанняў, што ўваходзілі ў іх кампетэнцыю па службе.

Паводле інфармацыі Ігара Марозава, найбольшая колькасць карупцыйных злачынстваў у 2010 годзе ў Віцебскай вобласці была выяўлена ў такіх сферах, як гандаль (105), прамысловасць (70), сельская гаспадарка, паляванне і прадастаўленне паслуг у гэтых галінах (65), дзяржаўнае кіраванне (48), будаўніцтва (47).

*Вячаслаў Будкевіч, БелаПАН.*



# Віншаванкі

## Таццяну Аляксандраўну Казлову

**Віншуем з Днём нараджэння!**

День рожденья - прекрасная дата,
Не беда, что уходят года.
Жизнь настолько светла и прекрасна,
Что не стоит грустить никогда.
Желаем здоровья на долгие годы,
Пусть милю пройдут все печали, невзгоды,
Пусть радостью, счастьем искрятся глаза,
И только от смеха сверкает слеза.

*Калектыў магазіна "Лілія"*

## Генадзя Міхайлавіча Янковіча

**Віншуем з 20-годдзем!**

Поздравляем с Днем Рожденья!
Желаем счастья и везенья,
Во всем удачи, настроенья,
Любви, взаимности, тепла,
Чтоб рядом были лишь друзья,
Чтоб все твои желанья сбылись
И все тревоги позабылись.

*Сям'я Шчасных (в. Жураўнёва)*

## Уладзіміра Іванавіча Скрабатуна

**Віншуем з Днём нараджэння!**

Пусть годы мчатся – не беда,
Врачует время раны,
И пусть уходят навсегда
Невзгоды и туманы.
А то, что для души светло,
Пусть остается с Вами.
Желаем в этот день того,
Чего хотите сами.
Желаем Вам:
в работе – скорости,
в здоровье – бодрости,
в счастье – вечности,
в жизни – бесконечности.

*Ад калектыву "ВГ"*

## Уладзіміра Іванавіча Скрабатуна

**Віншуем з Днём нараджэння!**

Всегда и грустно, и приятно
Свой день рожденья отмечать:
Уходят годы безвозвратно,
Их только успевай считать.
Но время, будто бы теченье,
Ничто не в силах удержать.
Тебе сегодня в день рожденья
Хотим мы счастья пожелать,
Удачи, радости, успеха,
Здоровым быть, беды не знать,
Преграды в жизни и помехи
Легко и быстро устранять,
Побольше смеха, меньше грусти,
И никогда не унывать.

*Жонка, дзеці, унучка Настасся.*

# У Лідзе і Лідскім раёне (Гродзенская вобласць) мяняецца занальны тэлефонны код

**У ноч з 21 на 22 студзеня 2011 года ў Лідзе і Лідскім раёне Гродзенскай вобласці ўводзіцца шасцізначная нумарацыя. Да пяцізначных нумароў тэлефонаў дабаўляецца лічба 5, а існуючы занальны код 01561 будзе заменены на новы код 0154.**

Новы парадак набору з 22 студзеня: па міжгародняй сувязі 8 0154 5ххххх; па міжнароднай сувязі +375 154 5ххххх.

Пры наборы старога нумару аўтаінфарматар паведаміць правільны парадак набору.

Апрача таго, усю неабходную інфармацыю можна атрымаць па нумары 153 (бясплатная служба даведкі).

«Насельніцтва Ліды і Лідскага раёна складае прыкладна 135 тысяч чалавек і ўвесь час расце. Для таго, каб забяспечыць усіх жыхароў горада і раёна якаснай стацыянарнай тэлефоннай сувяззю, доступам у інтэрнэт і лічбавым інтэрактыўным тэлебачаннем, у эксплуатацыю ўводзяцца новыя АТС, павялічваецца нумарная ёмістасць, а таксама мяняецца нумарацыя з пяцізначнай на шасцізначную», гаворыцца ў паведамленні «Белтэлекама».

*Аляксей Арэшка, БелаПАН.*

# Электратраўматызм сярод насельніцтва ў побыце

■ **А.С.Крывёнак,** *інспектар энергаінспекцыі Глыбоцкага раёна*

**У лістападзе мінулага года адбылося два няшчасныя выпадкі ў побыце са смяротным зыходам.**

**03.11.2010** года настаўніца школы Маладзечанскага раёна, знаходзячыся дома ў ваннай, дакранулася да працуючай пральнай машыны, якая была ўключана ў двухправодную сетку праз падаўжальнік і была смяротна траўмавана электрычным токам.

**24.11.2010** года качагар СДК Астравецкага раёна, выкарыстоўваючы ў хатніх умовах самаробную пераносную свяцільню, быў таксама смяротна паражоны электрычным токам. Прыкладна на адлегласці 1,5 м ад патрона была выканана сточка праваднкоў у выглядзе скручвання. На скручванні ізаляцыя адсутнічала.

Той факт, што падобныя выпадкі адбываюцца з году ў год, сведчыць, што грамадзяне часта грэбуюць элементарнымі правіламі электрабяспекі.

Дзяржаўны энергетычны нагляд інфармуе пра асноўныя меры засцярогі пры выкарыстанні электраэнергіі ў побыце:

- пры карыстанні пераноснымі электраприборамі, электрапомпамі на дачах і прысядзібных участках трэба ўжываць прылады ахоўнага адключэння (УЗО). Прылада ахоўнага адключэння – пакуль адзіны апарат, які абараняе чалавека ад дакранання да токаводных частак;
- не карыстацца няспраўнымі штэпсельнымі разеткамі, выключальнікамі і шнурамі для ўключэння электраабсталявання і электрапрыбораў.
- пры карыстанні пераноснымі свяцільнямі, прыборамі, пераносным электраінструментам нельга дакранацца да батарэй ацяплення, вадаправодных труб і іншых заземленых металічных канструкцый, змешчаных у кватэры.
- не закладваць правады і шнуры за газавыя і вадаправодныя трубы, за батарэі ацяпляльнай сістэмы.
- не карыстацца электрапрыборамі з парушанай ізаляцыяй, электраплітамі з адкрытай спіраллю, а таксама самаробнымі электрапечкамі і электранагравальнікамі.

Папярэджвайце пра небяспеку паражэння электрычным токам дзяцей!

**Каб бяспечна эксплуатаваць электраабсталяванне і электраправодкі, прапануем Вам правесці абследаванне тэхнічнага стану электраўстановак Вашага жылога дома. Абследаванне будзе выканана дзяржаўным інспектарам па энергетычным наглядзе на бясплатнай аснове. Пра неабходнасць правядзення абследавання паведаміце па тэлефоне – 2-80-43.**

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ "Вольнага Глыбокага"

24 – 30 студзеня 2011 г.







Вы можаце падаць сваю прыватную абвестку і па хатнім тэлефоне на нумар 166 круглясутачна. Выразна назавіце газету. У дадзеным выпадку – "Вольнае Глыбокае".

Кошт абвесткі аб'ёмам да 5 слоў – 2500 рублёў. Кожнае далейшае дадатковае слова – 300 рублёў.

Абвестка тлустым шрыфтам да 5 слоў – 3000 рублёў. Кожнае далейшае дадатковае слова – 400 рублёў.

Між тым, парадак прыёму прыватных абвестак у месцах продажу нашай газеты – нязменны.







## ПАНЯДЗЕЛАК, 24 студзеня




**06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 13.00, 14.00, 15.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00, 22.45** Новости.
**06.05, 07.10, 08.15** «Доброеутро,Беларусь!».
**06.45** Nota Bene.
**07.05, 08.10** Зона Х.
**07.30, 08.25, 11.50** Деловая жизнь.
**08.30** «В мире моторов».
**09.10** «Жизнь как жизнь». «Я из неполной семьи».
**10.10** Здоровье.
**10.35** Культурные люди.
**11.00** **«Маруся»**
**12.10** **«Радости и печали маленького лорда»** (Россия).
**14.05** Шоу «Вялікая розніца». Часть 2-я.
**15.15, 19.15** Новости региона.
**15.40** «OFF STAGE LIFE»
**16.05** Nota Bene.
**16.30** Сериал **«Маршрут милосердия»**
**17.25** **«Маруся»**
**18.25** «Окно в Европу».
**18.50, 01.00** «Зона Х».
**19.25** «КЕНО».
**19.30** «Арена».
**19.55** Ответный ход.
**21.00** «Панорама».
**21.45** **«Обмани меня»**
**22.55** «Эпоха». Фильм «Радзивиллы. Несвижские владения». Часть 1-я.
**23.25** Боевик **«Дублер»**
**01.05** День спорта.
**01.15** Хоккей для всех.




**06.00, 09.00** Наши новости.
**06.05** «Наше утро».
**09.05** Контуры.
**10.10** **«Моя жена меня приворожила».**
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10** «Смак».
**11.50** **«Папа на все руки»**. Комедийный сериал.
**12.20** «Детективы».
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** Контрольная закупка».
**13.45** «Модный приговор».
**14.50** «Понять. Простить».
**15.25** «Хочу знать»
**16.00** Наши новости.
**16.10** Новости спорта.
**16.15** **«Обручальное кольцо».**
**17.05** **«Слово женщине».**
**18.00** Наши новости.
**18.15** Новости спорта.
**18.20** «Обратный отсчет». Бизнес по-советски или жизнь удалась».
**18.55** «Жди меня».
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** «Как есть. Технологии переворотов».
**21.45** Премьера. **«Капитан Гордеев»**. Многосерийный фильм.
**22.45** Наши новости.
**23.00** Новости спорта.
**23.05** «Правдивая история. Тегеран-43». Фильм 1-й.
**00.05** «Виола Тараканова. В мире преступных страстей».
**00.55-01.15** Ночные новости.




**06.35** **«Универ»**
**07.00** ЛАДное утро.
**08.00** Телебарометр.
**08.05** **«Чисто английские убийства»**
**09.00** **«Ты моя жизнь»**
**10.00** **«Чужая родня»**
**11.45** Пра мастацтва.
**12.10** Школа ремонта.
**13.10** Премьера. «Последнее пристанище пиратской шхуны»
**14.05** **«Сила притяжения»**
**15.05** Мультсериал **«Семейка пиратов»** (Франция).
**15.30** Внеклассный час.
**15.45** Телебарометр.
**16.05** Детективный сериал **«Налетчики»**
**16.55** **«Чисто английские убийства»**
**18.00** **«Ты моя жизнь»**
**19.05** Хоккей. КХЛ. Витязь (Чехов) - Динамо (Минск) В перерыве: Калыханка.
**21.20** Телебарометр.
**21.25** Белорусское времечко.
**22.25** Комедийный сериал **«Интерны»**
**23.00** **«Универ»**
**23.30** Овертайм.
**00.00** Футбол. Чемпионат Англии. Премьер-лига. Обзор тура.
**00.55** **«Налетчики»**




**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро. Студия хорошего настроения».
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро. Студия хорошего настроения».
**08.30** «Неделя».
**09.35** «Большой завтрак».
**10.05** «Пять историй».
**10.30** «24 часа».
**10.40** «Богатая и любимая».Заключ. серия.
**11.40** «Званый ужин».
**12.35** «Я-путешественник».
**13.00** «У парадного подъезда» с Екатериной Забенько. Мирский замок.
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Звездный ринг». Тани Фаредо против группы «Механика».
**15.00** Концерт Михаила Задорнова.
**16.00** СТВ представляет: «КультУРА!».
**16.30** «24 часа».
**16.50** «Репортерские истории».
**17.10** «Наше дело».
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30** **«Взрослые игры»**. Сериал.
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** «Добрый вечер, малыш».
**20.35** «Кинопонедельник»: **«ФАРТОВЫЙ»**. Россия, 2006г.
**22.30** «24 часа».
**22.55** «Столичный футбол».
**23.25** «Кино»: **«УНДИНА»**.




**07:00** Тыдзень у «Аб'ектыве»
**07:30** Прэс-экспрэс
**07:45** Эксперт
**08:05** ПраСвет
**08:30** Басанож па свеце : «Малы індзеец»
**08:55** Прыватная калекцыя
**09:25** Гісторыя пад знакам Пагоні : «Мікалай Радзівіл Руды»

*Сын легендарнага Юрыя Радзівіла, празванага «літоўскім Геркулесам», Мікалай Радзівіл Руды пакінуў у гісторыі след як актыўны абаронца незалежнасць Вялікага Княства Літоўскага і на сойме, і на полі бітвы. Адзін з самых наймацнейшых магнатаў свайго часу, ён спалучаў у сабе шчырасць, адвагу і шляхетнасць.*

**09:30** «Восем месцаў. Вандроўка ў Афганістан»
**10:30** **«Тыдзень з жыцця мужчыны»**, маст. фільм, рэж.ЕжыШтур
**12:00** Аб'ектыў
**12:05** Прэс-экспрэс
**12:15** Эксперт
**12:40** ПраСвет
**13:05** Басанож па свеце : «Малы індзеец»
**13:30** Прыватная калекцыя
**14:00** Гісторыя пад знакам Пагоні : «Мікалай Радзівіл Руды»
**14:10** Дакументальная гадзіна: «Восем месцаў. Вандроўка ў Афганістан», дак. фільм, 2006 г., ЗША
**15:10** **«Тыдзень з жыцця мужчыны»**, маст. фільм, рэж. Ежы Штур, 1999 г., Польшча
**17:00** Аб'ектыў
**17:05** **«Мой родны горад»**, серыял: 23 серыя
**17:30** **«Час гонару»**: 13 серыя
**18:15** Невядомая Беларусь: «Як пошуг маланкі», дак. фільм, рэж. Валерый Мазынскі, 2010 г., Беларусь
**18:50** Госьць «Белсату»
**19:10** Прэс-экспрэс
**19:30** Аб'ектыў
**19:35** Гарачы каментар
**19:50** Калыханка для самых маленькіх
**20:00** Еўропа сёння
**20:30** Блізкая гісторыя. Іншы погляд: «52 адсоткі», дак. фільм, Польшча-Расея
**21:00** Аб'ектыў
**21:25** Рэмарка
**21:45** Фільматэка майстроў: **«Проста неверагодна!»**, маст. фільм, рэж. Габрыель Аг'ён, 2001 г., Францыя. У ролях: Наталі Бай, Жазьян Баляско, Вівіен Блясэль, Мары Жылен
**23:25** Аб'ектыў
**23:45** Гарачы каментар

СЕРАДА, 24 студзеня

